# ВІНШУЕМ З 75-ГОДДЗЕМ!

**У 2006 годзе споўнілася 75 гадоў вядомаму беларускаму навукоўцу і папулярызатару прыроды і яе аховы, ганароваму сябру арганізацыі «Ахова птушак Бацькаўшчыны» Эдуарду Рыгоравічу Самусенку.**



Нарадзіўся Эдуард 29 студзеня 1931 года ў Гомелі. Але на сваёй «малой радзіме» ў складаныя 30-я гады яму пажыць доўга не прывялося. З бацькам-ваеннаслужачым ён пабываў у Горках, Заслаўі, Пухавічах, Глыбокім. З апошняга горада ён з маці і сястрой дзе пешшу, дзе на коннай падводзе, дзе ў таварных вагонах-цяплушках за пару месяцаў пераадолеў шлях да таёжнага гарадка Таншаева на самай поўначы Горкаўскай вобласці.

Такое валацужніцтва, мусіць, і абумовіла ўсё далейшае жыццё – бясконцыя вандроўкі, у час якіх ён пазнаёміўся са значнай часткай былога Савецкага Саюза. Толькі ў гады Айчыннай вайны яму давялося жыць у Саратаўскай вобласці, а потым у Акмолінску (цяперашняя Астана), дзе здабыў улёт сваю першую качку і назаўсёды зачараваўся цудоўным і таямнічым жыццём прыбярэжных жывёльных суполак. У канцы вайны Эдуард жыў у Вязьме, а Перамогу сустрэў у Полацку.

Потым былі Мар'інагорскі сельгастэхнікум і біяфак БДУ з практыкай у Бярэзінскам запаведніку і на Белым моры, а таксама першая студэнцкая экспедыцыя па Нарачанскім краі.

Закончыўшы БДУ, Эдуард працаваў настаўнікам, вучыўся ў аспірантуры НАН РБ, працаваў у філіяле Інстытута жывёльнай сыравіны і пушніны, выкладаў заалогію ў Гомельскім і Мінскім педінстытутах. У 1980–1991 гадах працаваў у Інстытуце заалогіі НАН Беларусі.

За 45 гадоў працоўнай дзейнасці Эдуард Самусенка аб'ехаў усю Беларусь, пабываў у экспедыцыях і на канферэнцыях у Расіі і на Украіне, у Прыбалтыцы і Кыргызстане, Малдове і на Каўказе, у Польшчы і Узбекістане. Вынікам гэтых вандровак з'явіліся звыш ста навуковых прац, сотні публікацый у перыядычным друку, энцыклапедыях і даведачна-манаграфічных выданнях, а таксама шэраг кніг: «Дзівосная птушка» (1966), «Жемчужина Полесья» (1968), «Природа и спорт» (1980), «Комнатные животные» (1983), «Друзья нашего дома» (1992, 2001) і іншыя.

Работы Эдуарда Самусенкі высока адзначаны шырокімі коламі аматараў прыроды, спецыялістамі і асобнымі арганізацыямі. Ён 5 разоў выходзіў пераможцам рэспубліканскіх экалагічных конкурсаў, быў лаўрэатам конкурсу 1996 года па навуковым абгрунтаванні нацыянальнай сімволікі, у 2005 годзе стаў пераможцам рэспубліканскага экалагічнага конкурсу на лепшую публікацыю ў намінацыі «Мой родны кут»...

Эдуард займаўся вывучэннем прыбярэжных біяцэнозаў у шырокім плане, выдзяляючы птушак як адну з галоўных груп гэтых складаных і найбагацейшых экасістэм. Асноўная ўвага ўдзялялася ім відам, якія маюць найбольшы ўплыў на іншых прадстаўнікоў берагоў вадаёмаў, галоўным чынам на буйных птушак – буслападобных, драпежных, воранавых.

У верасні 1990 года па ініцыятыве Эдуарда Самусенкі ў Мінску праводзілася міжнародная канферэнцыя па буслах, дзе яго абралі старшынёй усесаюзнай рабочай групы па буслах, якая пад яго рэдакцыяй выдала два навуковых зборнікі па гэтых птушках – у 1990 і 1992 гадах.

Эдуард унёс вялікі ўклад у папулярызацыю і ахову і іншых відаў птушак. Дзякуючы яго намаганням былі заснаваны заалагічны заказнік «Антонава» у Лагойскім раёне і біялагічны заказнік «Вусце Лані» у Лунінецкім раёне. Апошні потым стаў ядром заказніка «Сярэдняя Прыпяць».

Мы шчыра віншуем Эдуарда Рыгоравіча з юбілеем і жадаем новых творчых поспехаў у справе аховы прыроды Беларусі.



**The part Our Jubilant, tells us about the wonderful Belarusian ornithologist, honorary member of APB, Eduard Samusenko, who is 75 years old this year. Eduard worked as a teacher. He taught zoology in Homel and Minsk Teacher's Training Colleges. During 1980-1991 he worked at the Institute of Zoology (Belarusian National Academy of Science).**

**For 45 years of work Eduard Samusenko has travelled all over the Belarus, he was in expeditions and conferences in Russia, Ukraine, Baltic States, Kyrgyzstan, Moldova, Caucasus, Poland and Uzbekistan. The result of the expeditions, were more than 100 scientific works, hundreds of publications in the periodical press, encyclopedias, informational and monographic publications, and some books. Eduard studied coastal biocenoses in their wide sense with focus on birds as one of the main groups of these ecosystems. The zoological reserve «Antonava» in Lahoisk district and the biological reserve «Vustse Lani» in Luninets district were designated due to his efforts.**

# ЦІ ЧОРНАЯ ВОЛЬХА?

**Эдуард САМУСЕНКА**

Навуковая батанічная назва нашай звычайнай вольхі – «чорная». Гэта таму, што драўніна ў яе цёмная, яна мяняе свой колер пасля высечкі. У пэўнай ступені гэтае «чорнае» імя звязана з колерам яе саспелых шышачак і цёмным змрочным ладам жыцця ў балоцістых мясцінах, непрыемных для людзей, што звыклі ацэньваць светлыя, сухія і зручныя для прагулянак залацістыя бары, беластволыя беразнякі ці вясёлыя зялёныя дубровы.

Лісты вольхі здзіўляюць сваёю афарбоўкаю. Але не багаццем восеньскіх фарбаў, а зусім наадварот. Вольха належыць да ліку тых нямногіх дрэў, у якіх кроны ў асенні час ніколі не расквечваюцца, застаюцца зялёнымі. Яна ніколі не прымае ўдзелу ў свяце восені. А лісце такім жа зялёным і падае на зямлю. Але, між іншым, лісце вольхі, у адрозненне ад іншых дрэў, багатае азотам. І на глебу яно ўплывае найлепшым чынам.

Сонечныя промні, якім удаецца пранікнуць у альховы лес, утвараюць тут мудрагелістую гульню святла і цяняў. Неасцярожнага вандроўніка між зараснікамі чаромхі і купінамі чакае багна з глыбокімі ямамі. Вывернутыя з каранямі яліны і зараснікі хмызоў, перавітыя хмелем, стройныя чорныя ствалы альшыны, што імкнуцца ўвышыню, – усё гэта ў сваім маўчанні нагадвае казачны зачараваны лес. Такі лес часта наведваюць ласі і казулі. Такі лес невыпадкова трапіў у апісанне беларускіх помнікаў прыроды нават на фоне славутага Бярэзінскага запаведніка. Менавіта гэтыя вольхавыя твані ў пойме Бярэзіны і берагоў возера Палік з'явіліся апошнім сховам буйных партызанскіх злучэнняў у час самай жорсткай нямецкай блакады ў 1944 годзе – літаральна ў апошнія дні перад канчатковым вызваленнем рэспублікі ад ворага.


ІГАР БЫШНЕЎ

Чарнавольхавыя лясы любяць «сяліцца» ў поймах рэк. Мне прыйшлося многа плаваць па рэках Беларусі для ўліку селішчаў баброў. Турысты-байдарачнікі ведаюць, што проста на залітых вадой берагах рэк, дзе нельга прыстаць лодцы, каб разбіць палатку, заўсёды трапляюцца ўчасткі з дзівосна роўнымі і высокімі альховымі стваламі-калонамі. Яны ўздымаюць свае невялікія кроны на вышыню 30–40 метраў. Пакрытыя лішайнікамі ствалы здаюцца лілова-шэрымі, святочнымі і сваёй геаметрычнай дакладнасцю нагадваюць каланады антычных храмаў. Такія альховыя лясы сустракаюцца на Нёмане і Прыпяці, Ясельдзе і Шчары, Лані і Морачы, Случы і Віліі, Заходняй і Усходняй Бярэзіне, на Агінскім, Сергучоўскім і Дняпроўска-Бугскім каналах. Здзіўляе не толькі вышыня і стройнасць ствалоў, але і іх здаровы выгляд. Іх не чапаюць ні грыбок, ні звяры, у той час як асіны, вербы, бярозы і нават дубы ў такіх мясцінах заўсёды аб'едзены ласямі, а бабры валяць іх цэлымі дзялянкамі. Рэдкія ў альшаніку яліны і сосны падобныя да абшарпаных старцаў.

Вясною чарнавольхавы лес – самы цяжкапраходны для чалавека. Уся прастора між дрэвамі-купінамі заліта вадою. На самой справе вольха расце на купіне. І не адна, а, як правіла, цэлаю сям'ёю-курцінай. Такая ўжо асаблівасць размнажэння гэтага дрэва



– ад аднаго дарослага ствала адыходзяць маладыя ствалы-пасынкі. А каб на вольху не так моцна ўплывала змена ўзроўню вады вясною, дрэвы часта растуць у поймах рэк, займаючы купіны.

У мудрагелістай аснове дрэваў, дзе пераплялося мноства каранёў і ствалоў, любяць пасяляцца звяры і птушкі. Часта ўладкоўваецца тут на зіму вожык – зручна. Але калі прыходзіць вясна, здзіўленню вожыка няма межаў: усюды вада. І выбрацца з такога лесу можна толькі ўплаў.

У вольхавых лясах можна сустрэць самую чароўную з нашых сініц – даўгахвостую. Яе другая назва – апалоўнік. Гэта проста ўвасобленая чароўнасць – белы пушысты шар з доўгім ступеньчатым хвастом. «Чэррчэрр...» – звонка пераклікаючыся і быццам здзіўляючыся нечаму, пералятаюць сініцы з дрэва на дрэва. Гняздо апалоўніка – дзівоснае, незвычайнае. Гэта вялікі прасторны шар – птушкі памайстэрску аплятаюць яго мохам і лішайнікамі, а звонку «інкрустуюць» кавалачкамі кары і павуціннем. Знайсці такое гняздо на фоне заімшэлага ствала вельмі няпроста.

У чарнавольхавых лясах можна сустрэць яшчэ адну птушку – вельмі рэдкую і асцярожную – чорнага бусла. Ужо з сярэдзіны красавіка буслы пасля вяртання з зімовак трымаюцца ля гнёздаў. Чарнавольхавыя лясы – любімыя месцы жыцця самага маленькага з нашых драздоў – белабровага. Уся справа ў тым, што свае гнёзды гэты від драздоў пераважна будуе невысока, часам нават на зямлі. Мы ўжо гаварылі пра якасці вольхі, у прыватнасці, пра складаныя групы-сем'і, якія вольха ўтварае на асобных купінах. Вельмі зручна для дразда. Маладых ялінак многа – таксама някепска. З гулкім трэскам налятаюць птушкі на любога, хто да іх набліжаецца.

Даўгахвостая кугакаўка – адна з самых рэдкіх і таямнічых нашых соў. Для яе патрэбен спелы высакаствольны лес. Добра, калі абраны для жыцця ўчастак суседнічае з балотам ці поймаю лясной ракі. А яшчэ лепей, калі ён знаходзіцца на адным з цяжкадаступных лясных астравоў сярод мохавага балота. Па такіх характарыстыках для гэтых соў як нельга лепей падыходзяць забалочаныя чарнавольхавыя лясы.

Шэраг іншых відаў вольхі таксама маюць «каляровыя» назвы – шэрая, сіваватая вольха, зялёная, чырвоная. Але, вядома, ніводная з іх не мае абсалютна аднатоннага шэрага ці зялёнага колеру. Усе яны шматкаляровыя, прычым афарбоўка змяняецца ў сувязі з порамі году і ў залежнасці ад узросту дрэва. Нагадаем, што наша вольха расце да 100, а ў асобных выпадках і да 300 гадоў. За гэты час яе ствол не толькі чарнее, але і пакрываецца разнастайнымі лішайнікамі, грыбамі і водарасцямі, так што вольха становіцца часам літаральна «вясёлкавай».



Шматгранная і цікавая роля вольхі ў экасістэме лесу. Гэта адзін з першапраходцаў лесу на дастаткова ўвільготненых глебах, асабліва ў поймах рэк. Раскрыццё яе насенных шышачак і рассейванне кожным дрэвам соценъ тысяч зярнят-арэшкаў супадае з веснавым разлівам рэк. Паводка падхоплівае непатапляльнае насенне і разносіць яго па берагах рэк Беларусі і іншых еўрапейскіх рэк – аж да Заўралля, рэк Об і Енісей.

Вольха – адна з абаронцаў іншых лясных парод ад шкоднікаў і хвароб. Яна выдзяляе фітанцыды, іншыя рэчывы, а магчыма, і біяэнергетыку, якія знішчальна ўздзейнічаюць на насякомых і вірусы. Прырода быццам ведае пра гэтую ахоўную якасць вольхі. Ці не таму менавіта яна акружае на ўзлесках лясныя масівы, якія самаўзнаўляюцца? А можа, пра лекавыя якасці вольхі ведаюць і лясныя жывёліны – ласі, казулі, бабры. Інакш навошта бабрам пакідаць нечапанымі нават маладыя парасткі, а харчавацца старымі дрэвамі асін, вербаў, бяроз і нават дубоў і сосен, прычым цягаючы іх за дзесяткі метраў з глыбіні прыбярэжнага лесу? Можа, гэта звязана з гаркаватым смакам яе кары, ліпкім лісцем? Але ж горыч не замінае пчолам энергічна збіраць ранняй вясной альховы пылок. А яе пладамі ахвотна ласуюцца чыжы, чачоткі і іншыя птушкі.

Хоць вольха не самая папулярная парода ў нашых азеляняльнікаў, усё ж яна ўпрыгожвае многія населеныя пункты і паркі Беларусі. У прыватнасці, вольха годна ўпісалася ў Нясвіжскі палацава-паркавы комплекс на месцы былога іпадрома, на высечаных у вайну пасадках ельніку і на іншых вільготных участках.

Лесаводы нездарма часам гавораць пра вольху: «амаль хамелеон». Вядома, у самым лепшым сэнсе, маючы на ўвазе, што змена колеру і біялагічных функцый прыводзіць да станоўчых вынікаў як для самога дрэва, так і ў канчатковым выніку – для прыроды ў цэлым.

**In the article «Is the Alder Tree Black?» Eduard Samusenko shares his impressions about the flora and fauna of the most mysterious forest ecosystem – Black alder forest.**



ІГАР БЫШНЕЎ

# ПРО ФЛЕГМАТИКА, РАЗБОЙНИКА И ПЕРНАТУЮ МОЛНИЮ

**Владимир ИВАНОВСКИЙ**

## РАЗБОЙНИК В МАСКЕ

Определение «певчие птицы» вызовет у читателей, по всей видимости, приятную ассоциацию с безобидными певунами, услаждающими наш слух майским утром. И в принципе они правы. Но не бывает правил без исключений. Познакомимся с одним из этих исключений — серым сорокопутом.



Как-то морозным февральским утром я неторопливо шел на лыжах вдоль опушки леса. Светило солнце, звездочки инея сыпались с задетых веток за ворот куртки, радостно поскрипывал снег под лыжами. Мне на щеку плавно опустилось маленькое зеленовато-серое перышко. Я поднял глаза в то место, откуда оно прилетело, и увидел удивительную картину. Метрах в пяти у меня над головой сидела небольшая серая птица величиной с дрозда. Оригинальный вид птице придавала черная полоса, идущая через глаза, как будто она надела черную маску. Карнавальный разбойник, да и только. Но оказалось — вовсе даже не карнавальный, ибо серый сорокопут, а это был именно он, отщипывал клювом кусочки мяса от тушки синицы, посаженной буквально на кол — на небольшой острый сучок. Самое поразительное, что сам сорокопут был ненамного больше синицы, а ведь, поди ты, смог поймать и убить эту проворную непоседу.

Серый сорокопут относится к отряду воробьинообразных, то есть певчих птиц. Свое имя он получил от слов «сорок» и «путать». Эта птица не имеет своей песни, а заимствует ее фрагменты у других «сорока» птиц, и составляет — «путает» их в причудливые рулады. Имя этой птице дали любители держать певчих птиц. Еще с десяток лет назад на Полоцком рынке в Витебске можно было изредка увидеть у птицеловов серых сорокопутов, попавших в западок на манную птицу.

Но вернемся к нашему конкретному разбойнику. Когда я подошел под самое дерево, птица вспорхнула и волнистым полетом, мелькая белыми «зеркальцами» на крыльях, перелетела на торчащий из сугроба кол и стала ждать, когда я уйду.



ВЛАДИМИР ИВАНОВСКИЙ

Как сейчас помню, первое гнездо серого сорокопута мне удалось найти в конце мая на крупном моховом болоте в Шумилинском районе. Я обратил внимание на светлое пятно, «устроившееся» на макушке сухой высокой сосны у берега болотного озерка. Поднимаю бинокль и вижу в поле зрения сидящего, как изваяние, серого сорокопута. Но вдруг «изваяние» стремительно сорвалось с ветки и ловко схватило клювом подлетевшую близко стрекозу. Сорокопут уселся с добычей на ту же сосну — очевидно, свой излюбленный наблюдательный пост, прижал тонкой лапкой стрекозу к ветке и ловко откусил ей крылья. И они, медленно вращаясь и пуская солнечных зайчиков, упали на зеленую подушку мха. Сорокопут по волнообразной траектории рванул в ближайшую рощицу низкорослых болотных сосенок, и я тут же услышал оттуда нетерпеливые крики голодных птенцов. Поспешив на крик, я увидел на сосенке в двух метрах от земли небольшое, как у дрозда, гнездо, построенное из тонких сухих сосновых веточек со вплетенными в стенки перышками различных птиц. Заглянув в гнездо, я был поражен: как в таком маленьком овале поместилось целых семь птенцов? Они были еще не совсем оперены, но уже «маскированы», как взрослые, черной полосой через глаз. А родители прямо выходили из себя. Они сидели на макушках сухих сосенок, беспрестанно чекали — «чек-чек-чек» — и подергивали длинными узкими хвостами, смешно свернув их на сторону. Под гнездом я нашел остатки добычи — надкрылья крупных жуков-плавунцов, кончик хвоста ящерицы, клочки шкурки мыши... Вот тебе и певчая птичка.

И еще долго по пути от гнезда меня сопровождало сердитое чеканье этих стройных серых «разбойников в маске».

## ЧЕМПИОН СРЕДИ ФЛЕГМАТИКОВ

Наверняка многие встречали в сосновых борах или по краям моховых болот разоренные жилища ос или шмелей. Чаще всего картина разбоя представляет собой вырытую ямку на песчаном косогоре или в моховой кочке на болоте. Валяются остатки пластинок осиных сот, и еле-еле шевелятся сами осы с раздавленным желто-полосатым брюшком. Иногда здесь можно увидеть и своеобразную визитную карточку разбойника — потерянное линное перышко с поперечными полосками. Осоед — хищная птица средних размеров, имеющая в размахе крыльев около полутора метров. Хотя осоед и имеет типично «хищный» облик: круто загнутый клюв и когти, но совершенно замечателен тем, что питается в основном личинками и куколками общественных жалящих перепончатокрылых насекомых. Кстати, взрослых ос и шмелей он не ест, но, если они очень досаждают при раскопках, обездвиживает их, раздавливая клювом.

Наиболее заметны осоеды в первых числах мая, когда они парами совершают брачные полеты. Каждую весну я наблюдаю игры знакомой пары осоедов на берегу крупного мохового болота у деревни Гульбище в Шумилинском районе. Птицы плавно закладывают в синеве неба пересекающиеся спирали. Они мелькают в поле зрения бинокля, как в калейдоскопе, блеснув то темно-коричневым, то соломенно-желтым брюхом. Окраска нижней части тела у осоедов сильно варьируется: в семье моих знакомых осоедов самец был «брюнетом», а самка — «блондинкой».

Осоед начинает гнездиться позже всех наших пернатых хищников, что связано со сроками развития личинок основного корма осоеда — общественных ос. Когда в гнездах у многих пернатых хищников уже оперяются птенцы, осоед только откладывает яйца, а случается это в первой десятидневке июня. Все у этой птицы самое-самое: самые поздние сроки вылета птенцов из гнезд — с середины августа, самые темные среди хищников яйца — скорлупа почти полностью покрыта каштаново-коричневыми пятнами разной величины, и, наконец, это самый большой флегматик среди хищных птиц. Однажды я попытался выяснить, сколь долго может просидеть самец осоеда абсолютно неподвижно на ветке у гнезда. Засек время и стал ждать, когда же сидящая, как изваяние, птица хотя бы шевельнется. Через час и сорок минут она продолжала сидеть, а я не выдержал и покинул свое убежище. Такое, казалось бы, странное «оцепенение» имеет адаптивную причину и помогает осоеду, сидя совершенно неподвижно, наблюдать за полетом ос и находить их жилища в самых укромных уголках. Когда осиный замок найден, начинается настоящая работа. Если осы неосторожно построили свой замок-шар на ветках среди зарослей, то осоед его просто срывает, а если жилище спрятано под землей или в моховой кочке, то начинаются раскопки. Помню, однажды, собирая малину, я случайно задел рукой незамеченный осиный дом-шар. Пришлось спасаться в озере, а потом несколько дней ходить с опухшей физиономией. Меня всегда удивляло, как разгневанные осы — бич всего живого, не могут отогнать от своего жилища осоеда. Но случай не замедлил представиться: в солнечный день в сосновом бору я набрел на осоеда, раскапывающего жилище ос, и наблюдал за ним в бинокль более часа. Осоед неторопливо трудился, равномерно выбрасывая лапами песок. Осы атаковали его со всех сторон, но он только периодически встряхивал головой и продолжал работу. Потрясающий флегматик!.. Если в лесу, высоко на дереве вам встретится гнездо, а под ним вы увидите остатки осиных сот, знайте, что вам посчастливилось найти гнездо осоеда — чемпиона среди флегматиков.


ВЛАДИМИР ИВАНОВСКИЙ

## ГАГАРЫ ВСЕ ЕЩЕ СТОНУТ

Гагары — одна из самых древних групп среди птиц. Еще не появился Homo sapiens, а гагары уже бороздили воды древних озер, ныряя за доисторическими рыбешками. В Беларуси это одна из самых редких птиц, включенная в Красную книгу.

В памяти еще свежо воспоминание о первой встрече с этой птицей. Начало мая, поздний вечер, за зеленой горизонтальной чертой болота медленно умирает солнце. Быстро поставив палатку, хлопочу у костерка и жду, когда закипит чай. С любого края небольшого островка, на котором я остановился, открывается вид на бескрайнее моховое болото. В двухстах метрах от островка — крупное болотное озеро, таинственно поблескивающее маслянисто-стеклянной гладью. Ни ветерка, стемнело, пламя костра вертикально вверх выбрасывало искры. Вдруг со стороны озера донеслись незнакомые громкие звуки: то ли лай и вой собаки, то ли карканье неведомой птицы. Затем все стихло. Я терялся в догадках и долго не мог заснуть под мелодичную трель козодоя. А разгадка наступила утром, когда я пошел к озеру умыться. Над водой стояла пелена тумана, которую разгоняли первые солнечные лучи. В центре озера плавала крупная птица величиной с небольшого гуся, с острым шиловидным клювом. В бинокль была хорошо видна пепельно-серая голова и шея, на горле — заметно вытянутое темное пятно. Верх тела имел блестяще-черную окраску с рядами белых пятен. Вне всякого сомнения, это была чернозобая гагара, чей голос встревожил меня в ночи. Птица кормилась, периодически ныряя... Я стал засекать по часам, сколько она находилась под водой. Результаты получились впечатляющие: от 40 до 130 секунд. Медленно бредя у самого края воды, я смотрел в бинокль на противо-

положный берег, пытаясь увидеть вторую птицу, и буквально чуть не наступил на гнездо, от которого спешно отплывала гагара. Птица встрепенулась и, после длинного разбега метров в двадцать, взлетела, блеснув на солнце белым брюхом и хрипло прокричав, постепенно убыстряя звуки: «Та... га... га... гаррраaa». Характерно, что с земли гагара вообще не может взлететь. Гнездо располагалось у самой воды и представляло собой аккуратную кучку изо мха, корневищ осоки и водорослей. В небольшом лотке находилось два крупных зеленовато-коричневых яйца с неясными темными пятнами по блестящей скорлупе. Гнездование на самом берегу — самое тонкое место гнездовой экологии гагары. Многие десятки гнезд этой птицы были разорены рыбаками. Птенцов выводили только те пары, которые гнездились на озерах, где были небольшие островки. Но этим древним птицам может помочь и человек. В Скандинавии и Прибалтике энтузиасты охраны этих птиц уже несколько лет строят искусственные островки-плотики, покрывая их моховой дерниной. Попробуйте и вы провести такой опыт — постройте островок на болотном озере. И, может быть, вам повезет, и однажды вы услышите с озера волнующее «га... га... гарррааа».


ИГОРЬ БЫШНЕВ

## ПЕРНАТАЯ МОЛНИЯ

Сокол-сапсан — одна из самых знаменитых и известнейших хищных птиц мира. В Средние века, в период расцвета соколиной охоты, во славу этой птицы слагались сонеты и баллады, художники рисовали наиболее выдающихся соколов на королевских перчатках. Сапсан был одним из наиболее ценных подарков у дипломатов; за хорошую ловчую птицу можно было выкупить несколько пленных.

Сапсан — одна из самых широко распространенных в мире птиц. Его можно встретить практически повсеместно, за исключением равнинной части Южной Америки, Центральной Австралии и Антарктиды. В гнездовой ареал сапсана до недавнего времени входила и вся Беларусь. Последнее гнездо этой птицы было найдено на Витебщине аж в далеком 1973 году. Неумеренное применение в сельском хозяйстве многих стран мира ДДТ и других химических препаратов на его основе привело к тому, что на рубеже 60—70-х годов прошлого столетия этот непревзойденный пернатый охотник практически исчез из гнездовой фауны многих стран Европы. Замыкая цепи питания, этот хищник накапливал в своих органах и тканях смертельные дозы отравы.

В настоящее время, чтобы увидеть сапсана в природе, нужно снаряжать специальную экспедицию в сентябре-октябре на одно из крупнейших моховых болот Витебщины, например, Ельню или Оболь. Здесь в период осенней миграции эти соколы из более северных регионов Европы задерживаются на некоторое время. В эту пору на моховом болоте настоящее «птичье эльдорадо»: на многочисленных болотных озерках и мочажинах стоит сплошной гомон пролетных гусей, уток, повсюду снуют стайки куликов, величественно, с фанфарными звуками, плавно идет на посадку клин журавлей...

Сижу в специальной засидке на берегу болотного озерка и наблюдаю в бинокль за пролетными птицами. Вот низко пролетавшая стайка чирков-свистунков вдруг резко камнем упала в воду и затаилась у островков, поросших багульником. Раздался свист рассекаемого воздуха, мелькнула тень над водой, и на ветку невысокой сухой сосны напротив меня опустилась хищная птица величиной с ворону. В бинокль хорошо видны идеальные аэродинамические формы ее тела. Верх птицы серо-голубоватого цвета, голова почти черная, горло и шея беловатые, от темно-коричневых глаз вниз идут темные сужающиеся полосы, очень напоминающие усы. Низ у хищника беловатый с поперечными черносизыми полосками. Сокол взъерошил перья, встряхнулся и стал чистить их клювом.

Вдруг на эту же ветку стремительно сел еще один сокол и стал пронзительно отрывисто кричать: «Кьяк-кьяк-ки-ки!..» Это была молодая птица из еще неразбившегося кочующего к югу выводка. Я неосторожно пошевелился в засидке — соколы один за другим стремительно взлетели с ветки и, легко взмахивая крыльями, скрылись из виду. Очевидно, семейка подалась на охоту. А охота этого хищника оставляет неизгладимое впечатление, ведь при атаке на жертву птица порой развивает скорость до 270 км в час. Его охоту осенью изредка удается наблюдать витебским голубеводам. Сапсан поднимается по спирали значительно выше стаи голубей, затем хищник исчезает из поля зрения, слышится свист рассекаемого воздуха, раздается глухой шлепок, и голубь, оставив в воздухе облачко перьев, замертво валится вниз. Сокол делает пируэт и подхватывает добычу. Незабываемый спектакль!

На Витебщине сапсаны гнездились на крупных моховых болотах, на островках среди болотных озерков или на крупных моховых кочках под прикрытием низких сосенок среди сильно обводненных мочажин. В гнезде, простой ямке, вытоптанной птицами, в конце апреля — в мае можно было увидеть два—четыре испещренных красно-коричневыми пятнами яйца, а в конце мая — пуховых птенцов. Но это было давно. И вот уже более двадцати лет никому не удавалось найти гнездо сапсана. Но я как орнитолог не теряю надежды, что великолепный сапсан вернется на наши болота.

**In the part «Notes of the Naturalist», we present the sketches of Dr. Vladimir Ivanovsky about his meetings with birds breeding in Belarusian Paazerije (Lakeland): the Peregrine, the Honey Buzzard, the Black-throated Diver, the Great Grey Shrike.**

# «Жаваранак» з «Чыжыкам» — родныя браты...

«Чыжыку беларускаму» – паэту Гальяшу Леўчыку (Іллі Міхайлавічу Ляўковічу) – у мінулым годзе споўнілася 125 гадоў з дня нараджэння.

«Чыжык беларускі» – адзіны прыжыццёвы зборнік творцы, выдадзены ім у 1912 годзе з дапамогай Янкі Купалы ў Беларускім выдавецкім таварыстве. Акрамя названага, Гальяш Леўчык падрыхтаваў да друку, але не здолеў выдаць, яшчэ адзін зборнік вершаў пад назвай «Жаваранак беларускі». Загінуў паэт у зруйнаванай, акупіраванай немцамі Варшаве ў 1941 годзе, дзе быў расстраляны (па іншых звестках, памёр ад голаду ў 1944 годзе)...

***Святлана Пракоф'ева***



**ДАРМА НАМ ТАК ЧЫЖЫК СПЯВАЕ...**

Дарма нам так  
чыжык спявае  
З галінкі плакучай бярозы...  
Ці бачыць ён, бедны, ці знае,  
Як льюцца ў нас горкія слёзы?..

Дарма так шчабеча-спявае –  
Пацешыць нас песнямі хоча...  
Дарма – бо усякі з нас мае  
Заўсёды заплаканы вочы...

**ЧЫЖЫК**

– Чыжык, чыжык, дзе ты быў?  
– Я на Белай Русі жыў:  
Бачыў слёзы, жалю крык,  
Як гаруе там мужык...

– Чыжык, чыжык, дзе ты быў,  
Што ты чуў там, што рабіў?  
– Сярод вёсак я лятаў,  
Песні сумныя збіраў...

– Чыжык, чыжык, дзе ты быў?  
Што ты бачыў, што ты сніў?  
– Ох, шмат гора ёсць там, шмат,  
Выглядае беднасць з хат...

– Чыжык, чыжык, дзе ты быў?  
– Па магілках я блудзіў,  
Па курганах, ля дарог,  
З жалю вытрымаць не мог!..

ФОТАКОНКУРС



ВАСІЛЬ ФЯДОСЕНКА

Птушка года ў мастацкай літаратуры

## Кніга пра кнігаўку і не толькі

Цудоўная птушка гэтая кнігаўка! Мала знойдзеш іншых, пра каго б было складзена і столькі песень («У дороги чибис...»), і столькі вершаў. Хіба толькі з ластаўкай, з жураўлём ды з буслом яе ў гэтым сэнсе можна параўнаць.

Але ў народзе кнігаўку найчасцей клічуць каняй, прынамсі, як і ў мастацкай літаратуры. Напрыклад:

*Блукаю ў позніх лугах.*  
*Туманяцца пойма і шлях.*  
*І зорка над лесам мігціць*  
*Ды **каня** ўслед пракрычыць*  
*На той, за Дняпром старане,*  
*Аклікне мяне...*  
*(Міхась Башлакоў)*

Вобраз кнігаўкі-кані – адзін з улюбёных у беларускай паэзіі. Ён сустракаецца як у лірыцы нашых класікаў (А.Куляшоў, Н.Гілевіч і інш.), так і ў вершах сучасных творцаў. І вось яшчэ адзін доказ таму: якраз напярэдадні новага года, года кнігаўкі, у адным з галоўных беларускіх выдавецтваў – у «Мастацкай літаратуры» – выйшаў зборнік паэткі Валянціны Кукса пад назвай «Кнігаўка». І няхай да жыцця птушак ён мае нязначнае дачыненне – усё роўна прыемна. А аматары птушак і беларускага прыгожага пісьменства атрымалі два падарункі адразу. Два ў адным...

***Святлана Пракоф'ева***

ЛУЧИК СВЕТА

## Евгений Мокрецов

**(18 июля 1989 года – 19 марта 2006 года)**

*Ученик 10-го «А» класса*  
*СШ № 148 г. Минска.*  
*Член АПБ с 2005 года. Теннисист,*  
*любитель природы, птиц, рыб.*

Евгений погиб при невыясненных обстоятельствах.

Серию снимков синиц он сделал на кормушках, которыми увешаны его окна, незадолго до трагедии...

# ПТУШКА ГОДА


**Крысціна Бабіч,** 11 гадоў (в.Шашкова)


**Анастасія Сідарэнка,** 12 гадоў (Жодзіна)


**Вераніка Смаль,** 12 гадоў (Слуцк)


**Віка Стонька,** 6 гадоў (в.Шашкі, Стаўбцоўскі р-н)


**Вольга Галіноўская,** 11 гадоў (Жодзіна)


Фото: ЕВГЕНИЙ МОКРЕЦОВ


**Аляксандра Мышко,** 16 гадоў (Жодзіна)

